(ундо). Да гэтага Аб'яднаньня ўваходзіць шмат украінскіх партыяў, дык і пастановы кангрэсу маюць вялікае значэньне. Асабліва цікавай ёсьць рэзалюцыя аб адносінах да Радаў. Вось-жа кангрэс рашуча асудзіў комуністычны лад і пастанавіў заняць адносна Радаў пазіцыю чаканьня Кангрэс пастанавіў каб цэнтральны. Камітэт Ундо пашоў на цеснае супрацоўніцтва з іншымі нацыянальнымі меншасьцямі ў Польшчы.

Як бачым, патрошку арганізуецца ў Польшчы агульны процібальшавіцкі фронт.

НЯМЕЦКАЯ НЕБЯСЬПЕКА ДЛЯ ПОЛЬШЧЫ. На апошніх выбарах да камунальных установаў у Горнай Сілезіі вялікую перамогу атрымалі немцы. У сувязі з гэтым распачалі заядлую антыпольскую агітацыю ў рэйхстаге некаторыя нямецкія паслы. Была вынесена некаторымі фракцыямі рэзалюцыя з задаваленьнем констатуючая вынік выбараў.

Было нават выражана нездаваленьне з поваду таго, што нямецкая дэлегацыя галасавала за ўваход Польшчы да Рады Лігі Народаў. Выступаў сам міністар замежных справаў Штрэзэман, які заявіў, што Нямеччына ніколі ня згодзіцца на загварантаваньне яе ўсходніх межаў.

ПАВЫШЭНЬНЕ ЧУГУНАЧНАГА ТАРЫФУ. З днём 1 сьнежня ўваходзіць у сілу новы чугуначны тарыф. Цэны на білеты навышаны на 10 працэнтаў.

ЗЬЕЗД БІСКУПАЎ. Адбываецца цяпер у Варшаве зьезд каталіцкіх біскупаў. Зьезд прыняў рад пастановаў для барацьбы з немаральнасьцю.

НОВЫ ВІЦЭМІНІСТАР АСЬВЕТЫ. Вызначаны новы віцэ міністар асьветы Жалобіцкі. Папярэдні віцэміністар Гайчак звольнены.

ПАРТЫЯ ВЯЛІКАЙ ПОЛЬШЧЫ. Шмат шуму робіць у Польшы апошнімі часамі арганізацыя „obozu Wielkiej Polski". Справа ў тым, што эндэцыя пасьля майскага перавароту зусім зайшла ў тупік, ды пачынае губляць свае ўплывы. Дык вось галоўны правадыр эндэцыі Роман Дмоўскі ўзяўся аб'яднаць нацыянальна-думаючы элемэнт у новую партыю Вялікай Польшчы. Ужо адбыўся у Пазнані арганізацыйны зьезд, на якім Роман Дмоўскі сказаў вялікую прамову аб мэтах новай партыі. Выбраны ўрад —у які ўвайшлі Дмоўскі, Плюцінскі, пас. Зьдзехоўскі і гэн. Гальлер.

## Заграніцай.

ЛІТВА. У мінулую нядзелю ў Літве адбыліся вялікія антыпольскія дэманстрацыі. Літва і да гэтага часу не пазбавілася яшчэ прэтэнсыяў на Вільню. Нядаўна Літва заключыла трактат з бальшавікамі, маючы на увазе Вільню.

Аднак ад трактату аказалася карысьць малая. Бальшавікі ўжо адхрышчываюцца ад Літвы. Дык бедныя літвіны ня маючы на чым выліць сваю злосьць — пачалі граміць палякоў.

Аднак усё агранічылася толькі лаянкамі, дэманстрацыямі ды пагрозамі.

Смачны жабе гарэх ды зубоў Бог ня даў. Так і Літве Вільня.

СЬМЕРЦЬ КРАСІНА. У Лёндане, памёр радавы пасол — выдатны дыплямат Красін. Многія Расейскія эмігранты і заграніца ўважалі яго за ідэйнага і ўмяркованага комуніста. рукі якого не запэцканы крывёй. Аднак пасьля сьмерці Красіна аказалася што гэты ідэйны комуніст пакінуў сваей жонцы 30 мільёнаў рублеў золатам!.. Самы чэсны з усіх комуністаў аказаўся найбольшым зладзеям, — бо краў грошы з розных дыспазыйных сумаў. Дык што ўжо казаць аб тых бальшавіках — якія нават не хаваюцца са зладзействамі.

Ці ня хочацца гэтага самага і нашым грамадаўскім паслам і цікава сколькі яны пакідаюць сабе з тых сумаў, што бальшавікі даюць на Грамаду?

ГІШПАНІЯ. Паліцыя арыштавала нейкага анархіста, які рыхтаваў за мах па Прыма-дэ-Рывэру, дыктатара Гішпаніі.

КІТАЙ. Вайна паміж чырвонымі і белымі трывае далей. Чырвоныя маюць пад сваёй уладай 7 провінцыяў з насяленьнем 200 мільёнаў чалавек

АЛЬБАНІЯ. Тутака нядаўна пачалося проціўрадавае паўстаньне. Паўстанцы мелі нават значны пасьпех. Але апошнія весткі даносяць, што паўстаньне шыбка ліквідуецца.

МЭКСЫКА. Мэксыка, як Партугалія ў Эўропе, гэта край частых рэвалюцыяў і пераваротаў. Так і цяпер там. началася новая рэвалюцыя. Пішуць, што рэвалюцыйная армія мае 20,000 жаўнераў Але тымчасам невядома — хто перамог. Бо стары урад Калеса мае значную папулярнасьць, асабліва сярод работнікаў.

БРАЗЫЛІЯ. Нешта падобнае творыцца і ў Бразыліі. Тут паўстанцы таксама маюць значныя сілы. Але баі ідуць з пераменным пасьпехам.

НАРАДА ЧАТЫРОХ МІНІСТРАЎ. Хутка мае адбыцца нарада міністраў замежных справаў: Англіі, Францыі. Нямеччыны і Італіі. Будзе разглядацца справа паразуменьня паміж памянёнымі дзяржавамі.

# Канфэрэнцыя у Менску.

Надовячы 14 лістапада адбылася ў Менску навуковая канфэрэнцыя, скліканая Інбелкультам. Апрача менскіх навуковых дзеячоў, ну і зразумела розных чырвоных гэнэралоў, як Чарвякоў, Адамовіч і іншая чырвоная пошкудзь, што кампрамітуе Беларускі Адраджэнчы Рух, былі на канфэрэнцыі прадстаўнікі часткі беларускай эміграцыі: В Ластоўскі, К. Езавітаў, У. Пігулеўскі і іншыя

З Заходняй Беларусі прадстаўнікоў ня было, бо грамадаўцам улада не дала пашпартоў, а іншыя навуковыя ўстановы, як Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры (які перадусім павінен быў-бы здаецца, быць запрошаным!) не атрымалі запрашэньня, а атрымалі толькі некалькі асобаў.

Характэрна, што быў урачыста запрошаны бальшавіцка-зьменавехаўскі сьвісток у Празе „Прамень", у той час, як павэжны журнал „Замежная Беларусь", выдаваны пад рэдакцыяй П. Крэчэўскага не атрымаў запрашэньня.

Вынікі прац канфэрэнцыі яшчэ невядомы.

# Ці Сьмярдзякоў можа быць не Сьмярдзяковым?

В. Ластоўскі на векі вечныя ахрысьціў Антона Луцкевіча „беларускім Сьмярдзяковым". Так ён з гэтым прозьвішчам і памрэ. Не выпускаць „ядавіты дух" Сьмярдзякоў ня можа, бо гэта вышэй яго прыроды. Так „Сялянская Ніва" ў № 41 падае пісьмо пасла кс. Станкевіча, які сцьверджаючы чарговую перадзержку Сьмярдзякова аб ягонай прамове на юбілею д-ра Басановіча, гэтак канчае сваё пісьмо: „З гэтага бачым, як высока неэтычна паступае А. Луцкевіч. Гэты яго паступак — гэта ёсьць ці з в ы ч а й н а е л г а р с т в а, ці п р а в а к а т а р с т в а. Дужа шкадую, што гэты чалавек падобнымі паступкамі так цяжка ганьбіць беларускае імя".

Кс. Ад. Станкевіч.

Вось які воблік мае духоўны правадыр Грамады фактычны рэдактар „Справаў"! Комэнтарыі здаецца тут зусім не патрэбны.

# З ПРЭСЫ.

## „Беларуская Крыніца" аб Грамадзе.

„Б. Крыніца" ў № 42 падсумаваўшы розныя галасы аб Грамадзе гэткі робіць вывад:

„Калі ўсё гэтае возьмем пад увагу, то відзім, што ўся работа Грамады мае надта слабы фундамэнт. Гэта будзе вялікан на гліняных нагах...

На культурную работу яна мала зьвяртае ўвагі. Даволі ўспомніць аб тым, што пры арганізацыі Грамады на вёсцы замірае ўся культурная работа, людзі перастаюць нават ладзіць прадстаўленьні, але аддаюцца усей душой палітыцы...

Бяручы пад увагу ўсё гэтае, хацелася-б адзначыць, што жыцьцё Грамады недаўгавечнае. Яе сточыць унутраны чарвяк".

# У С.С.Р.Р.

## Савецкае войска концэнтруецца ў Манджурыі.

З Мукдэна тэлеграфуюць, што Чанг-Со Лін мерліць прасунуць сваю армію на палуднёвым фронце, бо Савецкая Расея па слухам концэнтруе свае войска на граніцах Манджурыі.

## Бальшавікі прадаюць народнае багацьце англійцам.

Як даносіць „Вестмінстэр газэт" старшыня нафта-сындыката СССР. Сэрэброўскі знаходзіцца ў Лёндане, гдзе вядзе перагаворы з прадстаўнікамі амэрыканской „Стандар Ойль Кампані" аб *перадачы манаполіі экспорта* нафты з СССР. гэтай кампаніі.

# Жыцьцё провінцыі.

## Сіняўская гм. Несьвіскага павету.

Трапіўшая і да нашай гміны грамадаўская зараза пачынае перажываць крызіс. Першую адозву Рады прыхільнікі Грамады дзёрлі і таптали нагамі, а другую ўжо ня дзёрлі, а моўчкі прачытаўшы — бралі з сабою і штосьці хадзілі ўсё сумныя...

Ня ведаю, як гдзе, а ў нашай ваколіцы большасьць арганізатараў Грамады людзі бязідэйныя: яны творачы гурткі спадзяюцца, што гэтым заваююць прыхільнасць за кардонам, каб потым там атрамаць добрую пасаду. Яны гэтак і кажуць, што каліб яны маглі атрымаць якія—колечы пасады тутака, дык ні ўсякія-б Грамады і носу ня сунулі...

Але ўжо многія садрэфілі і адумаліся—хочуць выходзіць. У недалёкай будучыне атрымаеце ад іх заявы аб выхадзе з Грамады.

*В. П.*

## М. Ліда.

У нас моцна пачала працаваць Грамада — і ахапіла вялікія абшары. Нашая ж газэта перастала выходзіць нармальна, бо Бел. Нац. Рада ня мае сродкаў. У гэты мамэнт, мне здаецца, трэба вось што рабіць. Нам усім—як працаўнікам, сябрам і прыхільнікам трэба на гэтую мэту злажыць патрэбную лічбу грошай, хто колькі можа: 5, 10, 15, 25, 30, і хто можа дык і больш грошаў. Гэтую стаўку кожны павінен сам сабе абабраць і слаць у рэдакцыю. Потым пачаць збор ахвяраў на нашую часопісь, разаслаўшы падпісныя лісты з пячаткаю і адозваю. Я пэўны, што беларусы адклікнуцца і падтрымаюць сваю нацыянальную газэту. Грамада на бальшавіцкія грошы шле і *раздае дарма сваю атручаную газэту* і літэратуру ў вялікім ліку. Дык Бел. Нац. Рада павінна актыўна ўзяцца ў гэты цяжкі мамэнт за працу, а мы падтрымаем яе.

*Дзядзька Якуб.*

## Дабрадзеі з „Грамады".

*(В. Чамеры, Слонімск. пав.)*

У нашай вёсцы быў нейкі Бурсэвіч, які падаваўся за вучыцеля. Хадзіў па вёсцы нашай і прасіў, каб жыхары купілі дзерава і пабудавалі дом, гдзе мае быць беларуская школа. Сяляне для такой справы ўзяліся ахвотна і ў хуткім часе дом пад школу быў збудованы.

Што-ж, калі Бурсэвіч тагды не хацеў вучыць нашых дзетак ў роднай, беларускай мове, а пайшоў на агітатара бальшавіцкай Грамады, гдзе цяпер сядзіць у Вільні ў цэнтральным сэкрэтарыяце як „таварыш — сэкрэтар" і бярэ, як сам у вёсцы казаў, 400 злотых у месяц...

Мала гэтых 400 злотых гэтай гадзіне дык яшчэ што зрабіў? Дом, які пабудавалі жыхары за свае грошы, пусьціў у арэнду прыватнай асобе і грошы сабе бярэ... Сяляне вельмі гэтым абураны!

Што нам дасьць Грамада і яе „высокія" сэкрэтары мы можам з гэтага бачыць... Грамада і Бурсэвічы абяцалі ўсё, а далі нам хвігу. Чакаем прыезду Бурсэвіча ў нашую вёску, как правясьці справядлівы разрахунак за яго „заслугі" дзеля беларускай справы. За яго — ашуканца наша моладзь гніе ў Слонімскай турме! *Зрабіў бяду цэлай вёсцы і ўцёк адгэтуль.*

*Чамеравец.*

## Маральная гніль —Грамада разьляціцца.

*(Слонімшына).*

У вёсцы *Махначах Міжэвіцкай гміны, Слонімскага пав.*, дзякуючы асьцярагаючым адозвам Беларускай Нац. Рады прад бальшавіцкімі агэнтамі і іхнімі „гурткамі — ячэйкамі"— *зьліквідаваны гурток Б. Сял. Раб. Грамады..*

Махначане ў пару агледзіліся куды іх Грамада прэ і зрабілі канец „гуртку"... Не зразумелі гэтага яшчэ 5 сяброў гуртка (чытай падрайоннага камітэту К. П. З. Б!) ў в. Селявічэх і цягнуцца далей за вядомым майстрам па „дэлікатным справам"— Сьцяпанам Серкевічам...

Пара, таварышы — сябры зрабіць так, як гэта зрабілі Махначане, ліквідуючы „гурток" і праганяючы агэнта—шпіка бальшавіцкага — Белькевіча з Махнавіч. А добра ўцякаў гэты „таварыш з Махнавічаў, калі пасьля яго шапку знайшлі за 2 вярсты пад Міжэвічамі!... Сяляне! Бярыце прыклад і ганіце вон савецкіх шпікоў!

*Якут. Серы.*

## Грамадаўцы — кітаржане.

*(М. Курылавічы, Слонімск. пав.)*

Хаця адозвы Рады рабілі моцнае ўражаньне, аднак-жа гурткі Грамады завіталі і да нас. Першы адчыніўся пад Nr. 596 у в. Мілевічах і другі ў Дарагляных, гдзе жыве сам войт Ігнат Галавач. Можа хочаце ведаць хто іх залажыў? У Мілевічах — людзі адпетыя — прэзэсам Мікалай Хурса, *толькі што выпутчаны з турмы па двух гадох за забойства*, а сэкрэтар Мікалай Біч — яму пара такжа сама *толькі што в вастрогу.*

У Дарагляннах — сэкрэтар гуртка Ткачук — быўшы бальшавіцкі „военком". Як бачыце кампанія падбіраецца цёплая... Прычына галоўная росту Грамады бяда вёскі: падаткі цяжкія, зямлі мала, з сялян толькі дзяруць тры шкуры і нічога не даюць. Гміна на сялян глядзіць ваўком, нічым не парадзіць, нічым не паможа. Каб распачалася хаця бы камасацыя зямлі з дарэзкой. Між іншым у сялян цяпер бяда новая „з гэтымі кіламі," як яны кажуць. Старадаўнія бязьмены забаронены і за іх ужываньне кара, а як перавясьці на „кіла" дык сялян ніхто не навучыць. Добра было бы, каб пры гмінах была пастаўлена паказацельная вага на кілаграммы.

*І. С.*

### *Ваўкавыскі павет.*

Гэтымі днямі арганізуецца павятовы камітэт Грамады ў Ваўкавыску, у склад якога увахадзіць як старшыня Грудзінскі, які мае падабраць сабе сяброў. *На камітэт Грамада адпускае 150 зл. (бальшавіцкіх!) на месяц і 25°/₀ сяброўскіх складак.*

Нядаўна ваўкавыскае староства цанакладала штрафы на 500—1000 зл. на кіраўнікоў гурткоў за незаконныя сходы. У самым Ваўкавыску існавала

